Год III. Лістапад № 11 (34)

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."

ЯНКА КУПАЛА.







ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

ЗЬМЕСТ № 11.



*Просім пашыраць «Шлях Моладзі»*
*і прысылаць падпіску (грошы)!*

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Лістапад 1931 г. | № 11 (34). |
| --- | --- | --- |

## За́многа спорту.

Спортам завём усякія роды фізычных (цялесных) цьвічэньняў, якія перадусім маюць на мэце разьвіцьцё фізычных сіл чалавека і яго фізычнай зручнасьці і спрыту.

Вось-жа гэткі спорт сяньня дужа пашыраны. Пішуць аб ім розныя кніжкі і газэты, займаюцца ім старыя і малыя, ладзяцца публічныя спартовыя выступленьні, а нават адбываюцца міжнародныя спартовыя зьезды і цьвічэньні.

Праўда, спорт сам па сабе — гэта рэч сусім добрая. Даўно ўжо людзі на яго зьвярталі ўвагу, калі казалі, што „mens sana in corpore sano" (здаровы дух — у здаровым целе). Але гэтая старадаўная прыказка тады толькі спраўджаецца, калі між разьвіцьцём цела і душы чалавека пануе роўнавага, гармонія, калі ані цела разьвіваецца коштам душы, ані душа коштам цела. Тымчасам сяньня спорт разьвіваецца сярод грамадзянстваў, а перадусім сярод моладзі нядвузначна аднабока. Сяньняшні спорт, сяньняшняе гадаваньне і разьвіцьцё цела цалком выразна адбываецца коштам душы.

Глыбей думаючыя людзі на гэта цалком ненармальнае і шкоднае для грамадзянстваў зьявішча ўжо пачынаюць зварачваць увагу. Аб гэтай маральна няпрыгожай і грознай нераўнавазе між гадаваньнем цела і душы сяньняшняй моладзі гавораць і пішуць паважаныя пэдагогі, соцыолёгі, духоўнікі, пісьменьнікі.

І нічога дзіўнага. У сяньняшнім спорце разьвіцьцё цела коштам душы ўжо проста б'ецца ў вочы. Сяньня той маладзян, які не аддаецца розным спортам і іграм, чуецца адасобленым ад огулу моладзі, бо тая толькі і жыве фізычным спортам. Але-ж мы ніколі не павінны забывацца, што кожны спорт павінен мець нейкі вышэйшы над нашу фізычную сілу сэнс, павінен быць адухоўлены, бо йнакш спорт гэты робіцца звычайным зьвярыным муштрам, апошняй мэтай якога — фізычная сіла і зручнасьць. А гэткі спорт у далейшым сваім лёгічным наступстве разьвівае ў нас дзікае завадыяцтва, якое дужа часта падрывае сілы фізычныя, наша здароўе і цалком пустошыць нас духова. Гэткі сяньняшні спорт пазбаўляе нас жыцьцёвай, здаровай радасьці, бо спыняе правільнае разьвіцьцё сіл духовых ча-

лавека, адцягвае яго ад усей красы жыцьця духовага, а так-жа пазбаўляе нас разуменьня і адчуваньня належнага красы прыроды.

Вартасьць чалавека залежа не ад таго, як хутка ён бяжыць, як зручна кідае футбол, як высока ў гару падскаквае, як доўга плавае і г. д., але перадусім ад яго сілы маральнай і разумовай. Тымчасам сяньняшні спорт гэты прыродны парадак пераварочвае дагары нагамі.

Ясная рэч, што спорт разьвівае зручнасьць, спраўнасьць, пэўнасьць сябе, але ён бадай сусім непатрэбны дзеля ўзгадаваньня нашай сілы маральнай. Той, хто ў фізычным спорце выказвае найвялікшую зручнасьць, можа быць сапраўды маральным недарэкам у жыцьці і грамадзкім шкоднікам, бо сіла вонкавая ня можа быць ані мерай, ані тымбольш падставай сілы нашай сапраўднай, унутранай.

Нядаўная сумная, крывавая бойка між студэнтамі палякамі і жыдамі, якая здарылася па ўсіх бадай унівэрсытэтах Польшчы, апрача розных многіх іншых прычын, мае такжа і прычыну сучаснага культу цела, сучаснай хвальбы сярод моладзі сілы і зручнасьці фізычнай. У гэтых дзікіх бойках часьць моладзі польскай і жыдоўскай паказалі сваё фізычнае ўзгадаваньне на практыцы.

Тымчасам моладзь сучасная павінна ведаць, што калі яна хоча добрае што зьдзеіць у сваім жыцьці, то да гэтага трэба йсьці перадусім дарогай веды і маралі, дарогай сьвятла розуму і сільнага, добрага характару.

Асабліва аб гэтым ведаць і гэтым кіравацца ў жыцьці сваім павінна моладзь беларуская.

А. С.

---

# Крыху з нашай гісторыі.

## Другі пэрыяд гісторыі Беларусі.
## (XIII—XVI).

Першы пэрыяд гісторыі Беларусі, які сягае сваім пачаткам у глыбокую мінуўшчыну старадаўных легенд, паматкаў і летапісаў, заканчваецца сьветлай і выдатнай постацяй Усяслава Полацкага і ў канцы сумнай у гісторыі нашых продкаў „арыстакратычнай рэспублікай,“ якую-ж арыстакраты і зьвялі на клін, гаворачы проста.

Першы пэрыяд мае вельмі шмат сьветлых бакоў у сваей гісторыі, але шмат і цёмных, сумных старонак, запісаных жалобнымі літарамі. Да гэтага спрычыніліся амаль бязупынныя змаганьні з Кіеўскай Русьсю. Бачылі мы, як кіеўскія князі нападалі на Полаччыну, руйнуючы эканаміч-

на край, выганяючы з пасаду князёў полацкіх, або проста палонячы іх. Усё гэта бязумоўна мусіла цяжка адбіцца на цэлым жыцьці грамадзян Полаччыны.

Ішло змаганьне дзьвюх соцыяльных клясаў грамадзянства: арыстакрацыі і багачоў з аднаго боку і працоўных, бедных сялян—з другога. Гэтая барацьба таксама руйнавала край палітычна і эканамічна. Побач з гэтым пачаліся змаганьні гарадоў з прыгарадамі, аднаго князя з другім, воласьці з воласьцяй і г. д.

Паасобныя грамадзяне, жадаючы спакойнага і лепшага жыцьця, пачалі шукаць лепшых умоваў, ратуючы сваю маемасьць і ўласную галаву, уцякалі з краю. Гэтая эміграцыя Палачан накіроўвалася ў Літву. Багачы, ратуючы капіталы свае, уцякалі з краю, а ў сьлед за імі пачала ўцякаць і бедната, шукаючы лепшых варункаў матэр'яльных.

Туды-ж уцякаў і князь, выгнаны з краю, ці то сваяком ці чужым князём, або і вечам. У XII і ў пачатку XIII ст. землі князёў полацкіх часта стаюцца літоўскімі. Гэтая эміграцыя ў Літву была вельмі шкоднай для Полаччыны, а карыснай для Літвы. Дзякуючы гэтаму Літва пачынае абеднывацца і будаваць культурнае і палітычнае жыцьцё. Абяднаўшы сябе, яна пачынае гэтую працу і ў нашай бацькаўшчыне. Разьвіўшы прасьвету і культуру, Беларусь не здолела аберагчы свайго асабістага дзяржаўнага жыцьця. Літва, прышоўшы на Беларусь і прыняўшы беларускую культуру і асьвету, пачала завязваць палітычныя вузлы з сабою. З гэтай пары і пачынаецца другі пэрыяд гісторыі Беларусі.

Пасьля векавой сумеснай працы збудавалася вялікае і моцнае гаспадарства з літоўскаю ўладаю і полацкую беларускаю культураю.

Гэты пэрыяд у гісторыі Беларусі называюць эпохай Літоўска-Беларускага вялікага княства. Аднак „мы лічым патрэбным назваць яго літоўска-беларускім пэрыядам" — так кажа Ул. Ігнатоўскі. І далей паясьняе: „Справа ў тым, што якраз у працягу гэтага пэрыяду вынікла і разьвінулася тая дыфэрэнцыяцыя ўсходня-славянскага, рускага племя, якую мы бачым і дагэтуль". Літва змагла аб'яднаць заходнюю палавіну рускага племя, дзе йшло сваё культурнае і палітычнае будаўніцтва, над каторым працавалі: у цэнтры —беларусы, а на поўднёвай акраіне—украінцы. У гэты-ж самы час і на ўсходзе збудавалася маскоўская дзяржава, якая аб'яднала рускія плямёны на ўсходзе. Таксама і тут з вялікай энэргіяй пачало бурлець культурнае і палітычнае жыцьцё масквлі.

М. Пяцюкевіч.

# З падарожы па Палесьсі.

## У цягніку. Сяляне. Эканом.

Ад'ехаўшы ад Вільні мусіць нейкіх каля 100 кілёмэтраў, пачало цямнець. Зьмярканьне было хуткае, скарочанае, бо на заходзе сонца, якое як у крыві выкупанае, хуценька схавалася за лесам — наплылі на неба чорныя цяжкія хмары і завалаклі ўвесь небасхіл захаду, а пасьля паволі засьцілалі ўсё неба. Хутка падалі на зямлю чорныя, начныя цені і пакрывалі яе сваей цёмнай плянёнкай, сьпяваючы ціхую песьню начную ўсей прыродзе.

Зьнікалі ў цемры начной прыгожыя вобразы натуры, спавітыя густым непразрыстым туманом, з якога паўставала над зямлёй начная вільгаць.

А цягнік наш, не зважаючы на ніштто, усьцяж з вармальнай сваей шыбкасьцю мкне наперад, прарэзваючы густую цемру ночы. Пры кожнай станцыі высядалі пасажыры і такім чынам пусьцелі вагоны, якія ў Вільні перапоўнены былі. Час ад часу паяўляліся новыя, але і тыя разбрыдаліся па вагонах, як ягады ў лесе. Гэтых новых пасажыраў, якія прыбывалі да нас з правінцыянальных станцыяў, можна было падзяліць на дзьве розныя катэгорыі: 1) сяляне, якія ехалі на суд. да дохтара і ў іншых неабходных справах і 2) урадоўцы рознага руду і функцыяў. Гэтыя катэгорыі пасажыраў стараліся быць далёка адна ад другой, прынамся хоць у цягніку, бо так то яны часта спатыкаюцца адны з другімі, асабліва ў гміне, судзе, касе скарбовай, пры сялянскай кароўцы, а нават і пры пакадушцы. Але ня зусім свабодна і ў цягніку дзядзька вяскоцы чуўся ў прысутнасьці іншай катэгорыі пасажыраў; прыкл., калі хацеў закурыць, то выходзіў на тормаз і там пыкаў люльку, бо ў вагоне небясьпечна курыць самасейку, а ну-ж з пасярод гэтай катэгорыі пасажыраў ёсьць акцызьнік, а яны-ж маюць добры нюх — запах самасейкі ён і ў сьне пазнае. Ну, а калі-б пералавіў самасейку на „gorącym uczynku“, то што? Судовая справа і кара.

Сяляне, хоць незнаёмыя адзін з другім, але тут у цягніку знаёміліся, распытываючыся, хто скуль, куды і пашто едзе.

Справы ўсіх іх былі падобныя. Ня гнала іх кудысь ехаць роскаш, або цікавасьць, але гора — бяда, неабходнасьць. І гэтае гора штодзеннае і заўсёднае лучыць іх усюды і заўсёды. І усе яны такім чынам бліскія сабе, толькі той чужы і далёкі ім, каторы едзе з поўна напакаванай тэчкай розных пратаколаў, „наказаў платнічых“ і іншых папераў. Той далёкі і чужы ім, ад каторага пахне парфума, як ад сялянскай сярмягі пот, каторы ўшчапіўшы на нос

чорныя акуляры п'яна дзікім зрокам пазірае на сярмяжніка, і які нічога ня любіць сялянскага, апрача ягонай крывава-мазольнай працы.

Хацелася мне прысесьці да нашых сярмяжнікаў, паслухаць іхнай гутаркі, даведацца штоколечы аб іхным жыцьці і расказаць ім аб чымколечы. Але калі зблізжаўся да іх, то яны спынілі гутарку (відаць мая асоба не пажаданая была ў іхным таварыстве), бо я быў „па гарадзкому адзеты" і меў чорныя акуляры на носе. І такім чынам гутарка ў нас ня магла навязацца, бо яны мне ня верылі, што я іхны прыяцель. Каб не замінаць ім у гутарцы, я пакінуў іх і пайшоў у асобнае купэ, дзе пакульшто нікога ня было.

Сядзеў і разважаў нац тым, ці асягну я мэту маей паездкі. Першая проба навязаньня знаёмасьці з сялянамі не ўдалася. А што ж будзе далей? У цягніку і то ня хочуць гутарыць са мною, а што-ж будзе, як я пакажуся ў вёсцы? Селянін у сваей роднай хаце чуецца панам, то з такім „панічом", як я, проста не захоча тапкаваць.

Разважаньні мае і сумлівы ў гэтым кірунку перапыніў нейкі незнаёмы мне пасажыр, які адважна ўвайшоў у маё купэ і сеўшы насупроць мяне саneў; саненьне якога пераходзіла ў невыразны сьвіст, выходзячы праз нос. Гэты „пан" быў высокі і таўсты; век яго не пераходзіў хіба 40 гадоў; зрок яго накіраваны быў вышэй маей галавы (калі глядзеў у мой бок); ніжэй глядзець ён ня мог, перашкаджала яму згінаць галаву тоўста наросшае сала на шыі, так, што ўсё тэта ў простай лініі лучыла падбародак з брухам.

Доўга мы сядзелі моўчкі: ён сьвістаў праз нос, а я, ня маючы чаго рабіць, слухаў гэтай, так рэдкай музыкі. Аднак паволі заціхала гэтая „прыемная музыка", бо мой „пан" вярнуўся да нармальнага дыханьня.

Відаць было, што ён шукаў аказіі да навязаньня гутаркі са мною, але я да яго так бацай адносіўся, як дзядзькі да мяне. Злы быў на яго, што нарушыў маю цішыню, супакой, адзіноту. Аднак хутка нашлася аказія і мы пачалі гутарку. Пычынай гэтага была газэціна „Бел. Крыніца", якую выбраўшы з тэчкі пачаў я чытаць. Мой спадарожнік убачыўшы газэту, а каб даведацца якая, адсунуў далей тую часьць цела свайго, якой шчыльна датыкаўся лавы і такім чынам постаць ягоная прыняла выгляд пахілы і дзякуючы гэтаму мог ей свой зрок скіраваць проста ў газэціну. Паглядзеўшы на газэціну, а пасьля на мяне, спытаў: „Извините, Вы бѣлоруссъ?" Я адказаў яму: „так", —у гэтую хвіліну робіць уражаньне фалшыва абрадаванага і дадае: „Я тоже бѣлоруссъ". Яму здавалася, што гэтым прызнаньнем усьцешыць мяне і зблізжыцца да мяне. Аднак

гэта мяне нічагусенька не ўзварушыла, бо такія „тоже бѣлоруссы" ўсе яны роўныя ў сваіх поглядах на беларускую справу, і як такія добра знаныя нам.

Гутарка наша аб справах беларускіх клеілася, як мокрае гарэла: пераскаківалі з тэмы на тэму, ніводвую не заканчываючы. З яго гутаркі вынікала, што ён не разрожнівае Расеі ад Беларусі; гэтыя два розныя паняцьці твораць у яго адно. Беларусь ён разумее, як частку „Единой, неделимой Матушки Россіи".

Далей наракаў ён на цяжкое палажэньне „беларускіх афіцэраў", да якіх і ён належыць, бо ў царскай гвардыі быў ён палкоўнікам, а праўдзівасьць гэтага чыту даказаў дакумэнтамі. Гледзячы на сваю палкоўніцкую фотаграфію, з „фасонам"—гордасьцю рускага афіцэра, сказаў: „Раньше былъ всѣмъ, а сейчасъ только экономомъ" у абядненшым маёнтку.

Пасьля расказываў, якую ён важную ролю адыгрывае для беларускай справы, бо сялянам з суседніх вёсак піша заявы „почти безплатно", бо „толькі" адзін дзень кажа адрабляць у двары за гэта; а таксама, прачытаўшы сам газэціну „За свободу", дае сялянам „даром" і шмат іншых „дабрадзействаў" робіць для беларускай справы. Сяляне яго таксама „любяць", бо ён ня б'е іх, калі зловіць у грыбох, а толькі забірае грыбы і кажа за кару адзін дзень сена грабіць у двары.

Палякоў ён не далюблівае, бо не далі яму становішча палкоўніка ў сваей арміі. Бальшавікоў вельмі ня любіць, бо ў ягоных маёнтках, якія знаходзяцца каля Полацка, камуністы зрабілі калгас.

Сказаўшы аб гэтым, цяжка ўздыхнуў і пасьля дадаў: „Ох, чтоб скарѣе лопнул большевизм і возстоновился царскій режим, опять зажили-б, как раньше".

— Бязумоўна, добра было-б, каб лопнула бальшавіцкая дыктатура, але так-жа было-б добра, каб царскі лад не паўстаў ніколі.

Перапыняючы мяне, дадаў: „Да я ничего не имею противъ, если царъ будетъ с бѣлоруссовъ, ведь это все равно для нас, лишбы царь", дадаючы пры гэтым некулькі сказаў аб вельмі важным значэньні цара для кожнага народу.

Можа і далей цягнулася-б гэта вясёлая гутарка, але ўжо былі Баранавічы і майму спадарожніку трэба было высядаць. Пры разьвітаньні, запытаў, ці я знаю б. сэнатара з Баранавіч, пры гэтым падкрэсьліў, што яны добра знаёмыя, а нават прыяцелі, бо аднолькава заглядаюцца на мінулае, сучаснае і будучае.

З Баранавіч да Лунінца ехаў я адзін у купэ. Была ноч...

Фр. Цяцерскі.

# Індыя, барацьба за яе незалежнасьць і Ганді.

Індыя знаходзіцца на паўдні Азіі, распаложана яна на паўвостраве Індостан, у Індастанскай нізіне і заходняй частцы Індохіне. Абшарам сваім раўняецца яна палове Эўропы. Граніцыць Індыя: на ўсходзе — з Сіямскай дзяржавай, на поўначы — з Кітаем і Тыбэтам, на заходзе з Афганістанам і Пэрсіяй, і на паўдні з Індыйскім акіянам. На поўначы ад Індыі цягнуцца найвышэйшыя горы Гімаляі.

Індыя — гэта край паўднёвы, вельмі цёплы і ўраджайны. Расьце там вельмі добра бавоўна, рыж, пшаніца, вінаград, кава і іншыя паўднёвыя расьціны. У акіяне ж Індыйскім каля Індыі ёсьць пэрлы. Індыя дзеліцца на некулькі правінцыяў, каторымі кіруюць магараджы — князі.

У краі гэтым жывуць індусы, якіх налічаюць 320 мільёнаў. Народ індускі павольны і мала культурны, дзеліцца ён на вельмі шмат плямёнаў, якія гавораць рожнымі мовамі і вызнаюць дзесяткі рэлігіяў, з якіх галаўнейшыя ёсьць: брамінізм, магомэтанізм, буддызм і хрысьціянства. Апрача гэтага індускі народ дзеліцца на касты (клясы): 1) браманы (духоўнікі), 2) кшатры (войска і ўрадаўцы), 3) вайсясы (земляўласьнікі і купцы), 4) судрасы (работнікі і рамесьнікі) і 5) карыі (бедны народ ня маючы ніякіх правоў).

Жыхары Індыі, паміма вялізарнае свае колькасьці, ніколі да гэтай пары не змаглі сарганізаваць свае дзяржавы, — яны праз увесь час вялі змаганьне паміж сабой — каста проціў касты, то зноў вызнаўцы аднэй рэлігіі проціў другой і так бесперастанку.

Уладае Індыяй Англія і выкарыстоўвае няўпынныя змаганьні індусаў паміж сабой, агалочваючы іх край з багацьцяў.

Здаецца аднак, што нядоўга ўжо прыдзецца выкарыстываць Англіі Індыю, бо народ індускі шпарка ідзе да здабыцьця незалежнасьці.

Індусы ўжо даўно пазналіся на крыўдзе, якую ім робіць Англія, бо ўжо ў 1885 годзе лепшыя сыны Індыі пачынаюць кратацца, яны склікаюць першы нацыянальны кангрэс, які запачаткоўвае змаганьне за незалежнасьць Індыі.

У 1909 годзе індусы ўжо вядуць змаганьне ня толькі на ніве палітычнай, але і эканамічнай, яны зачынаюць байкатаваць англійскія тавары.

У часе сусьветнай вайны Англія, баючыся энэргічнейшага выступленьня індусаў у абароне сваіх правоў, абяцаець даць для Індыі самаўрадаваньне. Але абяцанкай гэта і скончылася.

У 1918 годзе адраджэнскі рух у Індыі прымае ўжо масавы характар. Работнікі індусы твораць свае арганізацыі і аб'яўляюць забастоўкі, дамагаючыся свабоды для свайго народу. Англійцы ўсё-ж такі спалохаліся гэтага руху і ў 1919 годзе прызнаюць для Індыі сякое-такое самаўрадаваньне. Індусы аднак гэтым не задавальняюцца і далей робяць забастоўкі, у арганізацыі якіх маюць падтрыманьне ад камуністычнае партыі, якая хацела ўзяць кіраўніцтва гэтага руху ў свае рукі. Англійскія ўлады, растрэліваючы цэлыя масы бастуючых работнікаў, ліквідуюць забастоўкі і байкот.

У гэтым часе паяўляецца ў Індыі Ганді, чалавек выглядам маленькі, сухі, насаты і лысы, з быстрымі вачыма, ідэаліст, з сталёвым і чыстым характарам, які пастанавіў за мэту свайго жыцьця выгнаць з Індыі англійцаў і стварыць незалежную індускую дзяржаву. Дзіўны гэты чалавек не пазваляе на ніякія гвалты, ані на праліцьцё крыві, а верыць у сілу духа і справядлівасьць.

Ганді паходзіць з даволі заможнае інтэлігентнае індускае сям'і і ад дзяцінства выроджваецца ён вялікімі здольнасьцямі. Па скончэньні сярэдняе школы ў Бомбаю (места у Індыі), едзе ён у Лёндын на далейшыя студыі, дзе па скончэньні праўнага факультэту на лёндынскім унівэрсытэце здабывае адвакатуру. Спачатку жыве ён, як і кожны заможны чалавек, не адмаўляючы сабе ні ўчым, але хутка мяняе жыцьцё. Кідае адвакатуру і места, едзе ў родны край, раздзяляе сваю маемасьць паміж бедных, становіцца сам бедным чалавекам і ідзе працаваць на зямлю, як кожны іншы індус земляроб. Жыве Ганді, можна сказаць, паводле навукі хрысьціянскай, хоць сам ня ёсьць хрысьціянінам, вельмі многа моліцца, жывіцца толькі пажывамі расьціннымі, ня есьць зусім мяса і ня п'е алькаголю.

Зблізіўшыся да народу, Ганді пачаў навучаць яго. Ён заклікае ўсіх сваіх суродзічаў кінуць міжрэлігійныя і міжкастовыя змаганьні, гаворачы, што ўсе людзі перад Богам роўныя, што падзел на варожыя касты ёсьць згубны для народу і што кожны мае права і павінен вызнаваць і славіць Бога. Пры тым Ганді заклікае ўсіх да супольнага змаганьня за незалежнасьць сваё Бацькаўшчыны Індыі.

Навукай сваёй і прыкладным жыцьцём Ганді здабывае сабе вялікую папулярнасьць сярод народу і сярод інтэлігэнцыі, якая ідзе за яго прыкладам іякая навучае і заклікае род да супольнай згоды і барацьбы з англійцамі.

Ганді асаблівую ўвагу зварочвае на моладзь і яе выхаваньне лічыць аднэй з найважнейшых заданьняў.

Ён уважае ўведзеную эўрапэйскую сыстэму праз англійцаў у выхаваньні індускае моладзі за неадпаведную, бо культура і ўзгадаваньне эўрапэйскае занадта зматэр'ялізa-

ванае, якое амаль сусім не зварочвае ўвагі на ўзгадаваньне духовае. Пры тым—кажа Гандi — *сапраўднага ўзгадаваньня ня можна даваць у чужацкай мове, асноўваючыся на чужой культуры.*

Паводле Гандяга трэба перадусім класьці нацiск на тое, каб навука i ўзгадаваньне ў кожным краi ды ў кожнага народу апiралiся на радзiмых абставiнах моладзi, не адрываючы яе ад таварыства, сярод якога яно вырасла, ад зямлiцы роднай, абычаяў i веры, ад уласнага грамадзянства ды ягонага жыцьця, расшыраючы адначасна мысьлёвыя i жыцьцёвыя горызонты, вяжучы бацькаўшчыну са сьветам. Каб пры ўзгадаваньнi ня кнiжка, а толькi асоба вучыцеля адыгрывала найгалаўнейшую роль, якая бязумоўна павiнна быць блiскай душой i сэрцам да моладзi.

За навуку i працу сваю Гандi ад народу, якi масай iдзе за iм, дастае iмя Магатмы — г. зн. прарок, сьвяты; ад вучонага i культурнага сьвету—iмя самага найвялiкшага чалавека ў сучасны мамэнт.

Вызвольны iндускi рух, на чале якога стаў Гандi, усё што-раз большыя прыймаў разьмеры, сам-жа Гандi iдучы за голасам народу, якi высказаўся на кангрэсе ў 1922 годзе жадаючы *незалежнасьцi Iндыi*, адкрыта дамагаецца належных правоў ад Англii.

Англiйцы аднак, хочучы ўтрымаць у сваiх руках багатую Iндыю, шукаюць спосабу, каб як-небудзь залагодзiць справу i дзеля гэтага стварылi спэцыяльную камiсiю, якая мела прыгатаваць праект канстытуцыi для Iндыi. Супроць гэтага рашуча пратэстуе Гандi, заяўляючы, што канстытуцыю для Iндыi могуць выдаваць толькi самi iндусы. I ў 1929 годзе Гандi склiкае кангрэс дзеля выданьня гэтае канстытуцыi. На кангрэсе апрацавачы быў праект канстытуцыi, у каторым не гаварылася яшчэ нават аб поўнай незалежнасьцi Iндыi. Аднак i на гэта англiйцы не згадзiлiся i пачалi спыняць вызваленчы рух, разганяючы прытым зборышчы iндусаў, у вынiку чаго паўставалi крывавыя забурэньнi. Бачачы гэта, Гандi забаранiў выступаць збройна iндусам процi ангельскае палiцыi, а заклiкаў да якнайшырэйшага байкоту англiйскiх тавараў i не плацiць падаткаў. Байкот гэты прыняў аграмадныя разьмеры i з гэтай прычыны англiйскiя ўлады мелi вялiкiя страты, а шмат англiйскiх фабрык пабанкрутавала. Пры тым Гандi арганiзаваў вялiзарныя пратэстацыйныя, байкотныя паходы.

Ня маючы нiякага iншага спосабу да паўстрыманьня вызваленчага руху, англiйцы ў 1930 г. арыштавалi Гандяга i найблiжэйшых яго супрацоўнiкаў i пасадзiлi ў вастрог. Ясна, што гэта не паўстрымала 120-цi мiльённае масы старонькiкаў Гандяга, якiя i далей дамагалiся свайго. Тады вiцэ-кароль Iндыi, найвышэйшы прадстаўнiк англiйскае ўла-

ды ў Індыі, вядзе перагаворы з Гандім, у выніку якіх Гандяга і яго супрацоўнікаў звальняюць з вастрогу. Справа-ж Індыі аканчальна мае быць вырашава на канфэрэнцыі „Круглага стала“ ў Лёндыне, у якой прыймаюць учасьце найвялікшыя палітыкі ангелійскія і на якую паміж іншымі прадстаўнікамі ад Індыі заклікалі англійцы і Гандяга.

Перад паездкай аднак сваей у Лёндын на канфэрэнцыю, Гандi ізноў склікае кангрэс сваей партыі, на якім пастаноўлена выдэлегаваць Гандяга на канфэрэнцыю „Круглага стала“, з тым, каб ён стараўся выпаўніць пастанову кангрэсу, у якой у першым пункце сказана, шт : *кангрэс жадае бачыць Індыю абсалютна незалежнай.*

Канфэрэнцыя Круглага стала распачалася ў канцы верасьня с. г., у якой прыймае ўдзел і Гандi. Вынікаў канфэрэнцыі пакульшто ня відаць. Ходзяць-жа чуткі, што Гандi з біраецца ехаць ужо дамоў; відаць, што пажаданых вынікаў яна для Індусаў ня дасьць.

Дзеля гэтага трэба спадзявацца, што хутка ў Індыі ізноў ускалыхнецца народная індуская маса, якая даволі ўжо мае чужацкага панаваньня. І бязумоўна, пераможцамі ў змаганьні гэтым „будуць тыя, па чыёй старане справядлівасьць, г. зн па старане Індусаў, бо, як кажа Гандi: *ніводзен народ ня можа быць падняволеным, калі сам гэтага ня хоча і калі сам дабравольна на гэта ня згодзіцца.*“

Я Н.

# Вайна на Далёкім Усходзе.

Кітайская рэспубліка абыймае 11.080.000 км. кв. і налічывае 444 653.000 жыхараў (больш як ува ўсей Эўропе!). З прычыны сваей нізкай культуры, агульнага абяцненьня і ўнутраных забурэньняў, штораз больш расьлі там уплывы суседніх дзяржаў: Японіі і Расеі. Асабліва адбіваліся гэныя ўплывы на прылягаючых да граніц успомненых дзяржаў краінах: Манджуры і Манголіі. Дзеля жаданьня пашырэньня ўплываў у Кітаі выбухла ў 1904-5 г. вайна паміж Японіяй і Расеяй. Пасьля дзяржавы гэтыя пераканаліся, што ім нечага біцца, а трэба толькі лоўка выкарыстаць Кітай. І так яны робяць мірныя дагаворы, у якіх праводзяць граніцы сваіх уплываў: Расеі мелі падпадаць паўночныя часьці Манджуры і Манголіі, а Японіі паўднёвыя. У перадапошнім дагаворы (у 1916 г.) успамінаюць гэтыя дзяржавы, каб у іхныя інтарэсы ўплываў у Кітаі ня ўмешваўся хтось трэці, — як напр. Зл. Штаты Амэрыкі.

Рэвалюцыя 1917 г. адарвала Расею ад усходняй палітыкі, а Японія тымчасам штораз большыя рысавала круг

сваіх уплываў, укладаючы ў свае прадпрыемствы паўтара мільярда даляраў.

У 1924 г. бальшавікі робяць дагавор з Кітаям, у якім прызнаюцца бальшавікам усе канцэсіі і прывілеі, якія мела царская Расея. Наступны дагавор бальшавікоў з Японіяй (1925 г.)--так-жа шкодны для Кітаю. Агулам бальшавікі і японцы на ўспомненыя кітайскія землі маюць штораз большыя і вядвузначна і ўплывы імкнуцца да падзелу Кітаю. Кітайцы аднак пачынаюць рэагаваць. Манджурыю і Манголію ўважаюць яны за свае адвечныя краіны. Губэрнатар Манджуры Чанг-Сіао-Лянг, сын генер. Чанг-Тсо-Лянга, у паразуменьні са Злуч. Штат. Амэрыкі пачынае агранічываць уплывы Саветаў. Гэта было прычынай збройнай іх інтэрвэнцыі на тэрыторыі Манджуры ў 1929 г. Японія ў гэты канфлікт не мяшалася.

Сягоньня з тых самых прычын Японія робіць акупацыю Манджуры, нібы хочучы стварыць з яе незалежную ад Кітаю дзяржаву. Саветы трымаюцца нявыразна. Адны палітыкі кажуць, што яны ўдараць на Японію, баючыся яе ўзросту, другія, што скарыстаюць са слабасьці Кітаю, а трэція цьвердзяць, што капіталістычныя дзяржавы Саветаў хочуць справакаваць, уцягнуць у вайну, каб пасьля была прычына выступіць проці іх. Доказам гэтага мае быць нерашучае становішча Лігі Народаў. Такое становішча Саветаў меліб выкарыстаць капіталістычныя дзяржавы на чале са Злуч. Шт. Амэрыкі і з Англіяй для пакананьня агульнага крызысу. Што будзе — будучыня пакажа; сягоньня заносіцца на вайну.

**Я. М.**

# Літэратурны аддзел.

* * *

Палосы, палосы, палосы!
У золаце сьпелым аўса
Стаю ўзадуменьню ў пракосе
Ў руках спачывае каса.
Аўсы парасьлі, як мядзьведзі
Гутораць вясёла з вятром.

І шыр навакола, як зглядзіць,—
Аўсянае мора кругом.
Стаю. . развагаю ў пракосе,
А ўзмаху чакае каса
О, як вы прыгожы палосы!
У золаце жоўтым аўса!

**М. Машара.**

* * *

Вагні ярчэйшыя...
Вясеньні веў...
Гальштук сьвятлейшы я
Сягоньня ўзьдзеў.

Настроі ціхія,
Як нейкі сьпеў...
Здаецца ў міг-бы я
Так занямеў...

Іду... валандаюсь...
У ценях дрэў
Сёньня б я рандэ-ву
З усімі меў...

**Хв. Ільляшэвіч.**

## ДА М. Н.
(з пэрскага).

Гляджу сумны, адзінокі
Там ў блакіт нябес шырокі,
Ці ня ўбачу зоркі той,
Што пагляд прыкула твой?
З падарожным, хоць ня знаю,
Пайду разам, мо' згадаю,
Ці паветра часам ён
Ня ўдыхаў з тваіх старон?
Я і ў ветру пытаць буду,
Што свабодна вее ўсюды,
Весткі мне ён, хоць ня ўсе,
Аб табе мо' прынясе?
Як хто скажа тваё імя, —
Мяне ў дрож чамусьць кіне.
Жывей сэрца тагды б'ець,
Кроў да твару наплывець.
Быццам мора, быццам цень,
Стаў блукацца я штодзень,
У твар кожнай спазірацць,
Каб падобную спаткаць.

Я. Быліна.

* * *

Ліпа ў цьвеце была і сьпяваў салавей,
Сонца косы сьвяцілі ў далі, ў вышыне,
Ты ўдзіўляла мяне ласкай мілай сваей,
Быццам кветка на грудзі тулілася мне.

Крук панура крычаў, сумна бор галасіў,
Восень брала прыроду ў суровы палон,—
Ты сказала „бывай"—я жалобу насіў,—
І зрабіла ты мне урачысты паклон.

З нямецкага КоКо.

## ВОСЕНЬ.

Восень сумна наступіла,
Дні ўсё убываюць,
Поле нудна апавіла,
Бульбачку капаюць.
Птушкі стадамі лятаюць —
Адбываюць вечы,
Аб адлёце пэўна дбаюць,
Ціканька шчабечуць.
Ліст на дрэвах ўжо жаўцее,
Падаць пачынае
На падворку халадзее,
Дожджык палівае.
Гразь-балота на дарозе
У хаце вудзяць дзеткі,
Ночай ўбачыўшы марозік,
Пасыхаюць кветкі.
У сушню да льну зьбірае
Мялок-баб кастрычнік,
З дрэваў лісьцьцё абдзірае
Вецярок-апрычнік.
Акрываюць зямлю ночкай
Шэрыя туманы,

Пралятаюць трыкуточкам
Гусак караваны.
Траўка сохне і жаўцее
Холадам пабіта,
Толькі сьвежа зелянее
Маладое жыта.
Гай радзее бязупынна,
Голы куст гарые,
Днём і ночай бязустанна
Лістапад працуе.
Ўжо скаціна дрэмле ў сене,
З хлява ня выходзіць,
Ночай цёмнаю васеньняй
Воўк галодны бродзіць.
Хмары часта неба муцяць,
Сонца рэдка блішча;
Крупень ў шыбы дробна бубніць
Вецер дзіка сьвішча.
Сьнежань белыя праводзіць
Паўсюды дарожкі,
Па іх восень і праходзіць
Ў дзень самы кароткі.

А. Жук.

ЛЮБЛЮ...

Люблю сваю старонку,
Гдзе з сваімі радзіўся,
Люблю загон і хату,
Гдзе я жыў і вучыўся.
Люблю кветкі,
Што так міла цьвітуць,
Люблю і тыя птушкі,
Што вясёленька пяюць.
Люблю тое сонейка,
Што з высокіх нябёс
Праменьні рассявае
На ўсё поле і лес.

Андрэй Сьпірыдовіч.

# З мінулых дзён.

(Успаміны). 6)

VI.

Вярнуўшыся да сваіх загонаў, трудна было распазнаць, гдзе і што калі было. Гдзе стаяла будыніна, там цяпер праведзена ковка — вузкакалейка, а гдзе ня было дамоў, гдзе цягнуліcь шнюры поля, там цяпер знаходзіліся вялікія нова пабудаваныя дамы, акопы і розныя склады. Усё было перавернена дагары нагамі. Вёскі нашай была большая палова спалена, а тыя хаты, каторыя асталіся, былі так-жа перароблены на нямецкі лад і ўсюды праведзены быў электрычны дрот, (самой электрычнасьці ўжо ня было, хоць немцаў знаходзілася многа).

Усе суседзі былі вярнуўшыся, толькі некулькі хат асталося за рускім, каторых і пасягонешні дзень няма. Вярнуўшыся, ведама, прыехаўшы раней дамоў, маглі спачатку вясны сеяць штоколечы, або пасадзіць. А наш спозьнены каралеван ня мог нічога пасеяць, —бо было позна — пачатак лета; хоць, праўда, былі такія, каторыя садзілі бульбу, але мала з яе скарысталі.

Насталі страшэнныя часы. Пачаўся голад, людзі самі ня ведалі, што рабіць, бо ў іх жыцьці да гэтага часу яшчэ такога страху ня было.

Чаго ня пробавалі, чаго не рабілі, чаго ня елі! Хіба толькі таго, чаго на сьвеце ня было! Хадзілі ў лес па шышкі, каторыя растуць на ляшчыне, зьбіралі верас і з яго зацірку варылі; сушылі траву і з яе пяклі хлеб. Быў і такі выпадак: адзін селянін купіў няведама гдзе пуд лубіну, прывёз яго да млына, каб змалоць; калі высыпаў у кош, дык людзі жменькамі расхваталі. Вось якія былі часы! Аднак-жа неяк людзі жылі; кідаліся памаленьку; шмат памірала з голаду, а некаторым і пара была памерці!

Час мінаў. Надышла зіма, прышлі сумныя Каляды, прышоў і Вялікдзень. Гэта апошняе сьвята найбольш асталося ў памяці і вось чаму: як ведама ўсім, у Вялікую Суботу, або на першы дзень Вялікадня, усе людзі — ці бедныя, ці багатыя—мусяць пасьвяціць яечка, кавалачак скораму, хлеба кусочак і солі якуюсь драбязінку.

А ў гэты-ж час якраз ня было чаго сьвяціць, ніхто ня меў ніякай скваркі, толькі мо' часам гдзе-негдзе ў каго закралась адна адзіная курачка. Вось помню, як сягонешні дзень, калі людцы прышлі ў вялікую суботу да невялічкага касьцёлка Богу памаліцца і пасьвяціць які прасьнячок сьпечаны з травы, пасьля набажэнства ксёндз выйшаўшы з касьцёла пачаў сьвяціць, а людцы ў немы голас пачалі плакаць; такім чынам былі пасьвячаны людзкія сьлёзы — маглі на першы дзень імі разгавецца і адсьвяткаваць гэта вялікае сьвята. Шмат такіх фактаў было, але трудна ўсё успомніць і апісаць.

Прышло лета. Трэба было хадзіць на працу — калючы дрот здымаць. Быў я яшчэ зусім малы, а брат яшчэ меншы, дык немцы спачатку не хацелі мяне прыняць, але потым, як людзі сказалі, што я бацькоў ня маю і няма з чаго пражыць, тагды яны зьлітаваліся і прынялі мяне да працы. Меншым хлапчуком плацілі адну марку ўдзень, а мужчынам тры маркі, дзяўчатам адну марку і дзесяць фэнігаў. Праўда, работа была цяжкая, ня раз прыходзілі з працы абкрываўлены, абарваны каля гэтага калючага дроту, але што-ж зрабіць, — дзякуй і за гэта. Шмат чаго прышлося пры гэтай працы пабачыць: акопаў незьлічоныя дзесяткі, размаітых знарадаў, трупоў многа і іншага. Калі пагледзіш у даль, дык аж жудасна робіцца на душы. Нігдзе ня ўбачыш вёсачкі, а нат' якой адзіна стаячай хацінкі, — усюды і ўсё зьнішчана, пазарастаўшы бярэзьнікамі, парыта акопамі, абмотана ўсюды калючымі дратамі.

Найстрашнейшай праявай было — гэта праведзеная электрычнасьць, па лініі дроту, каб людзі ня ішлі ў Расею, праз каторую шмат людзей пагібла, а такжа ня мала і жывёлы, каторая неяк была схавана ад рукі нямецкай. Заўсёды працаўнікоў разьдзялялі на невялічкія групкі, у каторыя ўваходзілі: адзін старэйшы мужчына, дзьве кабеты, або

дзяўчыны і якіх трох-чатырох маладых падросткаў; гэта група мусіла ў дзень вакруціць восем шпуль дроту калючага і часамі памагчы немцам узарваць колькі знарадаў.

Але нядоўга прышлося хадзіць да гэтага дроту. Калі аднаго дня самаю раніцаю сабраліся работнікі з розных вёсак на гэта поле, гдзе працавалі, прыехаў туды старшы немяц — называлі яго камандантам — выплаціў усім залеглыя грошы і сказаў, каб болей ужо ня прыходзілі да працы, бо немец мусіць выяжджаць на сваю бацькаўшчыну. Праўда, з аднэй стараны было сумна на душы, дзеля таго, што перарвалася праца і ня будзе гдзе якой няшчаснай маркі зарабіць, а з другой—плыла ў сэрцы якаясь радасьць,— мо' другі хто прыдзе і будзе ляпей. Так, вось усе людцы маліліся і рукі ў верх узносілі, каб хаця як вайскарэй сталіся якія-небудзь зьмены ў іхным жыцьці. Няраз у сьвяточныя дні зьбіраліся людцы нашы гдзе-небудзь на вуліцы, або ў якой-колечы хатцы і гаварылі: Керанскі як прыдзе, дык для сялян палепшае; прышоў і Керанскі, але нічога новага і добрага не паказаў і ня даў для сялянства. Пры яго панаваньні грошы валяліся аж нават па сьметніках, але за іх нічога ня можна было купіць.

Прышлі бальшавікі і з іх ніякай карысьці. Вось помню адзін раз, пашоўшы ў лес, набраў я невялічкі збаночак ягад і нясу дамоў, аж спатыкае мяне бальшавік і кажа:

— Мальчышка, прадай мне гэтыя ягады. А я яму адказваю:

— А колькі-ж дасі мне за іх.

— Маеш табе семдзесят рублёў: мне, як малому яшчэ, не разумеючамуся на гэтых грашах тады паказалася надта вялікая сума, бо помню — мой бацька перад вайной за сорак рублёў купіў добрага коніка, на якім прыходзілася парадарожнічаць увесь час,—дык я з вялікай прыемнасьцяй аддаў яму гэту жменьку ягад за семдзесят рублёў. А што купіў я за іх? — усяго дзьве маленькія скрыначкі шпіляк у Барунскай коопэратыве.

Пачалі ўрэшце некаторыя людцы цешыцца, што скора прыдуць да нас нейкія легіёны і прынясуць „шчасьце" для сялянскага беларускага народу. Шмат хто пайшоў з нашай вёскі ў гэтыя „лягіёны," якім памагалі ваяваць, бо было абяцана і „зямля"... і „шчасьце"... і „свабода"... і г.д. і г.д. Але, калі сягоньня запытацца, дык пачуем адны словы: кепска.. кепска... кепска... Знача, куды ня кінемся, гдзе ня глянем — усюды кепска.

Дык чаго ж нам патрэба для шчасьця? Прабуды, прабуды народнай!!...

Канец.

Вільня, 6.V.1931 г. **Янка Ваўштолскі.**

# Ліст.

## ДА СЬВЯТЛА І ЗГОДЫ!

**в. Славікі,** Варэйкаўскай гм., Ваўкавыскага пав. У нас, так як і ў многіх іншых кутхох Беларусі, жыхары па веравызнаньні праваслаўныя і каталікі. З прычыны сваей нясьведамасьці і цемнаты, яны мяшаюць рэлігію з народнасьцяй і дзеляцца на „рускіх“ — праваслаўныя і „палякоў“ — каталікі. З гэтае путаніны ніяк ня могуць выйсьці на добрую і сьветлую дарогу. Ды трэба прызнаць, што трудна й дайсьці цёмнаму чалавеку да праўды, ды яшчэ тады, калі „вучыцялі“ зьбіваюць яго з добрай дарогі, уводзячы і праз рэлігію падзел аднэй неразьдзельнай беларускай сям'і. Справа ў тым, што напрыклад польскія ксяндзы—замест зьбліжаць каталіка з праваслаўным і навучаць іх да супольнага жыцьця—яны сеяць нязгоду, называючы праваслаўных беларусаў нейкімі „варожымі кацапамі,“ а мову беларускую, якой карыстаюцца і беларусы праваслаўныя і каталікі,—так-жа „кацапскай.“

Вось-жа наша мова беларуская з прадвякоў была і ёсьць беларускай і нічога супольнага з кацапскай ня мела і ня мае. Як каталікі, так і праваслаўныя жыхары былі і ёсьць Беларусы, сыны аднэй радзі і гаспадары аднэй зямлі; дзеля гэтага мы не павінны слухаць баламуцтваў нашых ворагаў і не павінны крывіць свае беларускае мовы, а ўсюды і заўсёды павінны гаварыць пабеларуску. Пры тым моладзь павінна цікавіцца сваей роднай беларускай літэратурай, выпісваць і чытаць часопісь „Шлях Моладзі“, якая пакажа нам сьветлы шлях да будучыні, па якім павінны мы ўсе дружнай грамадой пайсьці.

**Ул. Адамчук.**

---

*БЕЛАРУСЫ!*

*Пры агульнай перапісі ў сераду 9-га сьнежня с. г. кожны Беларус павінен вымагаць, каб яго́най роднай мовай (папольску — „język ojczysty“) была запісана мова БЕЛАРУСКАЯ.*

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Сьледзтва. Судовыя ўлады вядуць ужо сьледзтва ў справе канфіскаты „Шляху Моладзі № 8 (31) У гэтай справе 29-га кастрычніка с. г. судзьдзя сьледчы дапытваў рэдактара „Ш. М".

Стыпэндыяльны Фонд. Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, разумеючы, што асьвета ёсьць адным з найбольшых фактараў духовае і матэр'яльнае самадзейнасьці народу, уважае за адно з галоўных сваіх заданьняў апеку над асьветай у сэнсе маральнае і матэр'яльнае помачы беларускаму студэнству вышэйшых школ. З гэтаю мэтай утвараецца пры Бел. Нац. Камітэце Камісія Стыпэндыяльнага Фонду для беларускага студэнства.

Дзеля арганізацыі гэтае Камісіі Бел. Нац. К-т выдзяліў Сэкцыю, у склад якой увайшлі: пасол Ф. Ярэміч, б. сэн. Багдановіч і інж. Клімовіч.

Для Камісіі Ст. Фонду Бел. Нац. К-т апрацаваў плян працы і рэгулямін, які прыняты агульным сходам сяброў Бел. Нац. К-ту 22 XI с. г.

Пры тым Бел. Нац. К-т выдаў адозву да беларускага грамадзянства, у якой горача заклікае ўсіх грамадзян бяз рожніцы палітычных перакананьняў складаць ахвяры на Стыпэндыяльны Фонд. Бязумоўна, кожны беларус, якому блізкай і дарагой ёсьць агульная беларуская справа, павінен зпажыць паводле магчымасьцяў хоць мінімальную суму на падтрыманьне беларускага студэнства.

Ахвяры на Стыпэндыяльны Фонд трэба склададь і прысылаць на адрас: Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, Людвісарская вул. № 1 кв. 19.

Як даведваемся, ужо некаторыя беларускія грамадзяне зложылі ахвяры на Стыпэндыяльны Фонд для беларускага студэнства.

Слуцкае Паўстаньне. 15.XI. с. г. у малой гарадзкой залі адбылося сьвяткаваньне 11-х угодкаў Слуцкага паўстаньня, у часе якога інж. С. Бусел прачытаў рэфэрат аб Слуцкім Паўстаньні. На пачатку акадэміі памяць палёгшых змагароў за Беларусь прысутныя ўшанавалі паўстаньнем з мейсц.

На задушкі. 1 га лістапада віленская беларуская моладзь, ідучы за прыкладам мінулых гадоў, адведала на магільніку Росса магілкі беларускіх паэтаў К. Сваяка і пісьменьніка Ядвігіна Ш. Над магілкамі іх моладзь адсьпявала некалькі беларускіх рэлігійных песьняў.

Канцэрт. 5-га сьнежня сёл. г. адбудзецца канцэрт у Віл. Бел. Гімназіі на карысьць незаможных вучняў гімна-

зіі. Пажадана, каб беларускае грамадзянства прыбыло на гэты канцэрт у як найбольшым ліку.

З выдавецкае нівы. У гэтым месяцы вышлі наступныя беларускія кніжкі: „Kazimier Swajak" нарыс аб ягонай ідэолёгіі — Ад. Станкевіча выд. „Chr. Dumki", цана кніжкі 50 гр; „Kupalle" — П. Задумы, — выд. „Chr. Dumki", цана кніжкі 50 гр. і „Adam i Anielka", апавяданьне — В. А., выд. „Б. Крыніцы", цана кніжкі 50 гр. Купіць і выпісаць можна з кнігарні „Пагоня": Вільня, Людвісарская 1.

Лекцыя. 29.XI. с. г. інж. Клімовіч у памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры прачытаў лекцыю на тэму „Вільня, як гістарычна-культурны цэнтр беларускіх земляў".

## З Украінскага жыцьця.

Новыя часопісі. У гэтым месяцы у Львове пачалі выходзіць наступныя новыя ўкраінскія часопісі для моладзі: „Молодняк" — часопісь для сялянскае старэйшае моладзі", „Дзьвіночок" — часопісь для украінскіх дзяцей і „Молоді Робітнікі" — часопісь для украінскае работніцкае моладзі. Усім ім жадаем пасьпеху.

## З Польшчы.

Сэсія Сойму адложана на 30 дзён.

Дэфіцыт у праекце. Паводле прыгатаванага ўрадам праекту буджэту на 1932-33 год прадбачыцца 2.452.383.400 зл. выдаткаў і 2.375.015.800 зл. прыходу. На пакрыцьцё расходаў бракуе 77.367.600 зл.

## З заграніцы.

— Апошнім часам даецца заўважыць пасьпех Літвы ў прыбалтыцкіх дзяржавах, з якімі яна навязвае бліжэйшую лучнасьць.

— У Гішпаніі ізноў неспакойна. Каталіцкая партыя, а так-жа і манархісты востра пачалі выступаць супроць рэспубліканскага ураду і канстытуцыі, якая ўводзе барацьбу з рэлігіяй.

Італьянскі мін. загр. спр. Грандзі за прыкладам францускага прэм'ера езьдзіў на нараду да прэзыдэнта Амэрыкі Гувэра ў справе сучаснага крызысу.

— Саветы і Турцыя падпісалі ўмову аб прадаўжэньні савецка-турэцкае ўмовы.

— У Югаславіі адбыліся выбары ў парлямант, у якіх ідучы за прыкладам іншых дзяржаў, дзе ўладу дзяржаць дыктатары, урад „здабыў" сабе большасьць.